# СМІ Ў БЕЛАРУСІ

ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

КАСТРЫЧНІК–СНЕЖАНЬ 2013

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY



Фота: Сяргея Балая

*Гэты перыяд адрозніваецца больш актыўным пераследам інтэрнэт-каментатараў і блогераў. Гэта пакуль кропкавыя справы, але ўжо відавочна, што ўлады ўсё больш увагі звяртаюць на інтэрнэт… Магчыма прагназаваць, што чым бліжэй прэзідэнцкая выбарчая кампанія, тым мацней будуць рэпрэсіі ў адносінах да грамадска-палітычных СМІ…*

*Аляксандр Старыкевіч,*
*намеснік старшыні*
*ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"*

*Прапануем унесці шэраг зменаў у закон аб СМІ, у адпаведнасці з якім найбольш папулярныя і ўплывовыя інтэрнэт-рэсурсы патрапяць у разрад СМІ і будуць несці адказнасць паводле закону за распаўсюд любой інфармацыі – аж да адклікання рэгістрацыі.*

*Дзмітрый Шадко,*
*намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь*



# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў КАСТРЫЧНІКУ-СНЕЖНІ 2013 ГОДА

- **Працягваюцца неабгрунтаваныя затрыманні журналістаў.**
- **Суд падтрымаў рашэнне Міністэрства інфармацыі пра пазбаўленне ліцэнзіі выдавецтва “Логвінаў”.**
- **Крымінальныя справы за публікацыі ў Інтэрнэце.**
- **Мінінфарм хоча распаўсюдзіцб свой кантроль на Інтэрнэт-рэсурсы.**

## ЗАТРЫМАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Зранку 19 кастрычніка на пероне мінскага чыгуначнага вакзала міліцыя затрымала дзесяць журналістаў, якія збіраліся асвятляць вяртанне вызваленага наканадні палітзняволенага Паўла Севярынца. З аддзялення міліцыі іх вызвалілі толькі пасля таго, як Севярынец выйшаў з будынка вакзала.**


Фота: Сяргея Балая

**23 кастрычніка** гэты і іншыя падобныя інцыдэнты абмяркоўваліся на сустрэчы кіраўнікоў Беларускай асацыяцыі журналістаў з кіраўніком ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандрам Барсуковым. Аднак становішча да лепшага не змянілася.

**29 кастрычніка** ў Мінску былі затрыманыя пяцёра журналістаў, якія прысутнічалі падчас ускладання кветак грамадскімі актывістамі на Кальварыйскіх могілках. Акцыя была прымеркаваная да Дня памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Прадстаўнікоў прэсы прывезлі ў аддзяленне міліцыі Фрунзенскага раёна

г. Мінска, дзе ў іх праверылі дакументы і асабістыя рэчы і праз паўтары гадзіны вызвалілі.

У той самы дзень былі затрыманыя яшчэ два журналісты. Тэлежурналістаў Аляксандра Баразенку і Марыю Арцыбашаву затрымалі на вуліцы падчас правядзення вулічнага відэа-апытання на тэму маладзёвых арганізацыяў у Беларусі. Затрыманых адвезлі ў аддзяленне міліцыі Ленінскага раёна г. Мінска, потым – у пракуратуру, пасля чаго зноў даставілі ў міліцэйскі пастарунак. Журналістаў вызвалілі праз тры гадзіны.


photo.bymedia.net

**6 лістапада** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі фрыланс-журналістку Анастасію Рэзнікаву і сябраў Беларускай асацыяцыі журналістаў Вячаслава Пяшко, які меў пры сабе пасведчанне рэпарцёра газеты “Новы час” і кінарэжысёрку Вольгу Мікалайчык.

Затрыманне адбылося каля цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна, з якога пасля трох сутак арышту выходзіў гомельскі актывіст Юрый Рубцоў. (Яго асудзілі пасля таго, як падчас санкцыянаванага шэсця “Дзяды” ў Мінску Рубцоў адмовіўся па патрабаванні міліцыі зняць майку з надпісам “Лукашэнка, сыходзь!”).

Журналістаў даставілі ва УУС Маскоўскага раёна Мінска, дзе перапісалі ў іх пашпартныя звесткі і правялі дагляд рэчаў. Супрацоўнікаў міліцыі знішчылі ўсе запісы з відэакасеты журналістаў, якія здымалі выхад Рубцова з турмы. Аднак касету і відэакамеру карэспандэнтам вярнулі.

**Такім чынам, за апошні квартал 2013 г. міліцыяй затрымоўваліся 20 журналістаў. Усяго паводле падлікаў БАЖ напрацягу 2013 г. адбылося 45 затрыманняў журналістаў у сувязі з выкананнем імі службовых абавязкаў. 4 выпадкі скончыліся адміністрацыйным арыштам на тэрмін ад 3 да 15 сутак.**

## СУД ПАДТРЫМАЎ РАШЭННЕ МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ ПРА ПАЗБАЎЛЕННЕ ЛІЦЭНЗІІ ВЫДАВЕЦТВА “ЛОГВІНАЎ”

**Прыватнае выдавецтва “Логвінаў” не здолела пакуль аспрэчыць у Вышэйшым гаспадарчым судзе Рэспублікі Беларусь рашэнне Міністэрства інфармацыі пра пазбаўленне яго ліцэнзіі на права ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці.**

**18 лістапада** суддзя ВГС Таццяна Праташчык падтрымала пазіцыю Міністэрства інфармацыі. Ігар Логвінаў абскардзіў гэта рашэнне ў касацыйную інстанцыю Вышэйшага гаспадарчага суда.




Падставай для пазбаўлення аднаго з лідараў беларускага незалежнага кнігавыдання ліцэнзіі стаў выпуск фотаальбома “Прэс-фота Беларусі-2011”, які суд Ашмянскага раёна прызнаў у красавіку 2013 г. экстрэмісцкім матэрыялам.

**Справу аб прызнанні экстрэмісцкім матэрыялам мастацкага альбома са здымкамі-пераможцамі конкурсу прэс-фота, вызначанымі аўтарытэтным міжнародным журы, ініцыявала Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці.**

## КРЫМІНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ ЗА ПУБЛІКАЦЫІ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

**Увечары 20 лістапада ў кватэры галоўнага рэдактара інфармацыйнага парталу vrogacheve.ru (г. Рагачоў Гомельскай вобл.) Дзяніса Дашкевіча супрацоўнікі Следчага камітэта правялі “агляд”, па выніках якога былі сканфіскаваныя кампутар і мадэм.**




Дашкевічу паведамілі, што праводзіцца праверка ў рамках крымінальнай справы па факце абразы прадстаўніка ўлады. Крымінальны працэс быў распачаты па заяве намесніка старшыні райвыканкама Каральчука, - паведаміў сайт vrogacheve.ru. Падставай для ўзбуджэння справы сталася публікацыя,

у якой вялося пра прадстаўніка мясцовай "вертыкалі".

**29 лістапада** за абразу суддзі ў інтэртэце журналіст адной з інфармацыйных агенцыяў (імя не называецца) заплаціў штраф у памеры 20 мільёнаў рублёў (больш за 1500 еўра). Пра гэта паведаміў сайт газеты "Камсамольская праўда ў Беларусі". Журналіст у каментары пад адным з артыкулаў у непрыстойнай форме выказаўся наконт судзебнага рашэння, што спрычыніла ўзбуджэнне крымінальнай справы паводле арт. 391 КК РБ "Абраза суддзі або народнага засядацеля".

## МІНІНФАРМ ХОЧА РАСПАЎСЮДЗІЦЬ СВОЙ КАНТРОЛЬ НА ІНТЭРНЭТ-РЭСУРСЫ

**Напрыканцы лістапада 2013 г. намеснік міністра інфармацыі Дзмітрый Шадко заявіў (цытуецца паводле дзяржаўнай інфармацыйнай агенцыі БелТА), што прапануецца "унесці шэраг зменаў у закон аб СМІ, у адпаведнасці з які найбольш папулярныя і ўплывовыя інтэрнэт-рэсурсы патрапяць у разрад СМІ і будуць несці адказнасць паводле закону за распаўсюд любой інфармацыі – аж да адклікання рэгістрацыі". З гэтай мэтай створана працоўная група з прадстаўнікоў зацікаўленых ведамстваў.**

Беларускі закон "Аб СМІ" не вызначае панятку "Інтэрнэт-СМІ", аднак дэлегуе паўнамоцтвы па іх рэгістрацыі і рэгуляванні іх дзейнасці ўраду Рэспублікі Беларусь. Аднак адпаведнай пастановы дагэтуль прынята не было. Распаўсюд рэпрэсіўнага беларускага заканадаўства пра СМІ на Інтэрнэт-рэсурсы значна ўскладніць, а ў шэрагу выпадкаў зробіць немагчымай іх дзейнасць і павялічыць магчымасці Міністэрства інфармацыі па накладанні на іх санкцыяў, аж да закрыцця.



# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

## FREEDOM HOUSE АДНЁС БЕЛАРУСЬ ДА ШЭРАГУ КРАІН З НЕСВАБОДНЫМ ІНТЭРНЭТАМ.

**Праваабарончая арганізацыя Freedom House у чарговы раз аднесла Беларусь да групы краінаў з несвабодным інтэрнэтам.**



У даклад Freedom House пра свабоду Інтэрнэту ўключаны 60 краінаў. З іх 29 блакавалі або фільтравалі ў інтэрнэце інфармацыю палітычнага і сацыяльнага характару Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе свабода інтэрнэту абмяжоўваецца. Становішча ў нашай краіне, паводле праваабаронцаў Freedom House, магчыма параўнаць з Кітаем, Суданам ды Эфіёпіяй..

## СЯРОД КРАІНАЎ УСХОДНЯГА ПАРТНЁРСТВА БЕЛАРУСЬ ЗАСТАЕЦЦА АПОШНЯЙ ПА ЎЗРОЎНЮ СВАБОДЫ СМІ

**Паводле другога Індэксу свабоды медыяў Усходняга партнёрства, падрыхтаванага напярэдадні саміту ў Вільні 28-29 лістапада, Беларусь па-ранейшаму адстае паводле паказчыкаў свабоды СМІ ад астатніх краінаў Усходняга партнёрства. Як і падчас правядзення пілотнага апытання экспертаў, праведзенага ўлетку 2013 г., Беларусь па ўсіх чатырох блоках пытанняў – "Палітыка", "Практыка", "Тэлерадыёвяшчанне" і "Інтэрнэт і новыя медыі" – атрымала найгоршыя ацэнкі.**

Даследаванне ажыццяўляецца ў межах праекту ENP – EaP Media Freedom Watch. Зводны індэкс рыхтуецца на аснове апытання дзесяцёх медыяэкспертаў у кожнай з шасці краінаў Усходняга партнёрства: Азербайджане, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне. Індэкс вызначае ступень захавання асноўных правоў і свабодаў журналістаў у рэгіёне.

